Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка
№38 чэрвень 2014

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь

# Алесь Бяляцкі на волі



**Кіраўнік праваабарончага цэнтра “Вясна” Алесь Бяляцкі выйшаў на волю з папраўчай калоніі ў Бабруйску. 15.05 ён прыехаў электрычкай у Менск. Прычынай яго вызваленне стала амністыя.**

***У невялікім інтэрв’ю, якое даў Алесь Бяляцкі на чыгуначным пероне, ён сказаў, што ў весь час адчуваў пэўны ціск у справе напісання прашэння аб памілаванні. Але ён адмаўляўся яго пісаць.***

# Камітэт па правах чалавека ААН зарэгістраваў скаргу Віктара Сазонава



Гродзенскі праваабаронца Віктар Сазонаў атрымаў ліст з Камітэта па правах чалавека ААН. З яго ён даведаўся, што скарга, пададзеная з нагоды пераследу за фотаздымак у інтэрнэце, зарэгістравана.

У студзені 2013 года суддзя Віталь Ляцко з суду Ленінскага раёна Гродна аштрафаваў гарадзенскіх праваабаронцаў Віктара Сазонава, Рамана Юргеля і Уладзіміра Хільмановіча да грашовых штрафаў за нібыта несанкцыянаваны пікет. У Дзень правоў чалавека 10 снежня 2012 года грамадскія актывісты сфатаграфаваліся з партрэтамі зняволенага Алеся Бяляцкага на вуліцы і выставілі фотаздымак у інтэрнэт. Гэта было расцэнена як несанкцыянаванае мерапрыемства, была пачатая адміністрацыйная справа. Усе скаргі гродзенскіх праваабаронцаў на нацыянальным роўні былі разгледжаны з адмоўным адказам. Не знайшоўшы абароны сваіх правоў у Беларусі, актывісты склалі скаргі ў КПЧ ААН. Віктар Сазонаў спадзяецца, што ў Камітэце справа будзе разгледжана аб'ектыўна і будзе ўстаноўлена парушэнне ягоных правоў з боку дзяржавы.

# Ціск на грамадскіх актывістаў Лідчыны



На грамадскіх актывістаў Лідскага раёну ідзе ціск з боку раённых дзяржаўных службаў. Яшчэ 5 траўня судом Лідскага раёну пяцёра ўдзельнікаў ушанавання памяці беларускіх дзеячаў ў Дзень Волі Сяргей Трафімчык, Вітольд Ашурак, Мурат Мусаеў, Сяргей Сідарэнка і Юры Дзяшук былі прызнаныя вінаватымі і аштрафаваныя на 5 базавых велічынь кожны за нібыта правядзенне несанкцыянаванай акцыі. Аднак, бальшыня засуджаных так і не атрымалі ні пастановы суду, ні банкаўскага рахунку на які трэба плаціць штраф. Толькі Сяргею Трафімчыку (на фота) ажно 26-га чэрвеня прыйшлі банкаўскія рэквізіты разам з пастановай судовага выканаўцы. Цяпер штрафы з актывістаў імкнуцца спагнаць прымусова, хоць у гэтай сітуацыі вінаваты Лідскі раённы суд.

Сітуацыю каментуе каардынатар "Руху за свабоду", грамадскі актывіст з Бярозаўкі Сяргей Трафімчык: "На маю думку, ў гэтым выпадку відавочна альбо невыкананне супрацоўнікамі суда сваіх абавязкаў, і тады гэта звычайная халатнасць, альбо гэта зроблена наўмысна, каб мы не паспелі ў час заплаціць штрафы, і пад выглядам "судовых выканаўцаў" пабываць у кватэрах актывістаў, правесці дагляд маёмасці, штосьці знайсці. Можа маё такое меркаванне і выглядае смешным, але ж мы ня ведаем, дзе ў "іх" мяжа маразму і на што здольнае хворае ўяўленне якогасьці мясцовага начальнічка спецслужбаў? У любым выпадку, відавочнае невыкананне і парушэнне заканадаўства".

# Прафесар Алесь Астроўскі звольнены з Гарадзенскага медуніверсітэта



Алесь Астроўскі - прафесар Гарадзенскага медуніверсітэта, доктар медыцынскіх навук, звольнены з навучальнай установы. Такое рашэнне прыняла вялікая навуковая рада ўніверсітэта ў час конкурсу на замяшчэнне пасады прафесара. У прафесійным плане Алесь Астроўскі не меў падставаў асцерагацца такой рэакцыі рэктарату.

Расказвае прафесар Астроўскі:

- Быў аб'яўлены звычайны конкурс на замяшчэнне вакантнай пасады. Раз у пяць гадоў ён аб'яўляецца, і я мусіў прайсці па гэтым конкурсе. Усё, здавалася, ішло нармальна. І раптам як гром сярод яснага неба. Натуральна думаеш, што ж насамрэч адбываецца. Успомніў, што я не першы ў Гародні. Ігар Кузьміч мне сказаў, што я ўжо восьмы выкладчык і чацвёрты прафесар з нашых гарадзенскіх універсітэтаў, які быў звольнены.

Адзін з лепшых навукоўцаў Гарадзенскага медуніверсітэта аказаўся непатрэбны сістэме. Яго грамадская пазіцыя, патрыятызм у выхаванні студэнтаў сталі асноўнай прычынай зачысткі чарговага выкладчыка вышэйшай навучальнай установы. Алесь Астроўскі мяркуе, што звальненне выкладчыкаў-патрыётаў сваёй краіны выгадна перадусім прарасейскім спецслужбам. У Алеся Астроўскага трое непаўнагадовых дзяцей.

# Мундыяль і справядлівасць

***Мільёны людзей зараз сочаць за футбольным чэмпіянатам свету. Для адных – гэта асаблівая жарсць, для іншых – спосаб пераключыцца, абстрагавацца ад сацыяльных, сямейных ці іншых праблемаў, даць выхад эмоцыям, для некаторых – нават своеасаблівы працяг вайны, толькі мірнымі сродкамі. Часам на мундыялі паміж сабой сустракаюцца былыя калоніі і метраполіі, часам гістарычныя суседзі, часта прадстаўнікі розных кантынентаў, расаў і стыляў. Кожны мае тут свае сімпатыі, гістарычныя рахункі і прыярытэты. Іншыя ж шукаюць у футбольных баталіях справядлівасці і высакароднасці, якіх так мала ў сённяшнім свеце, шукаюць тое, чаго няма ў палітыцы і міждзяржаўных дачыненнях.***

Еўропа пакуль перажывае фіяска ў змаганні на зялёных палях з прадстаўнікамі Паўднёвай Амерыкі, на гэтым кантыненце ёй не шанцавала ніколі. А вось прадстаўнікі Паўночнай і Цэнтральнай Амерыкі – ЗША, Мексіка, Коста-Рыка радуюць не толькі сваіх заўзятараў, але і нейтральных аматараў гульні нумар адзін.

Для самой Бразіліі, у якой футбол стаіць на роўні рэлігіі, чэмпіянат стаўся дваякім фактарам. З аднаго боку яшчэ адзін шматмільённы карнавал па ўсёй краіне, з іншага – пратэсты супраць неабачлівай палітыкі ўраду, вялізных выдаткаваных сумаў на будаванне новых стадыёнаў і рэканструкцыю старых аб’ектаў. Дайшло да таго, што прэзідэнт Бразіліі Дзілма Русеф, баючыся быць асвістанай, не прысутнічала на цырымоніі адкрыцця сусветнага футбольнага форуму – выпадак беспрэцэдэнтны. А вось фрау Меркель ніколі не прамінае магчымасці наведаць такія спартовыя фэсты. Канцлер Германіі Ангела звычайна падвышае свой рэйтынг у час футбольных топ-турніраў – бундэстым яе не падводзіць. Праўда, золата за яе кадэнцыю ўзяць ніяк пакуль не можа.

Збіраецца наведаць фінальны матч і прэзідэнт Расеі Уладзімір Пуцін, якому пакуль не выпадае ганарыцца сваёй дружынай. Сама маленькая краіна з прадстаўленых на мундыялі Бельгія абыграла сама агромністую дзяржаву Расею. Мяркуючы па некаторых



сацыяльных сетках, за бельгійцаў перажывала і значная частка беларусаў. Хоць бальшыня напэўна з традыцыйным савецкім комплексам “малодшага брата” па-ранейшаму за ўсходняга суседа. У расейцаў у футболе як звычайна пыхі многа, але майстэрства мала. Праўда, Пуцін усё роўна прыедзе ў Бразілію. Яму ніколі ні за што не бывае сорамна. І яго дагэтуль, нягледзячы на захопніцкую палітыку і агрэсію ў дачыненні да Украіны, усюды прымаюць.

Выступ на чэмпіянаце свету – гэта цудоўная магчымасць паказаць свету сваю краіну, прэзентаваць нацыянальную сімволіку, гімн, людзей. Боснія і Герцагавіна як дзяржава існуе толькі крыху больш чым дваццаць гадоў, але ўжо дамаглася такога права. Цудоўны прыклад для футбольнай зборнай Беларусі, заўзятары якой могуць толькі марыць пра выхад у фінальную частку мундыялю. Дэбютанты баснякі паказалі вельмі сімпатычную гульню, але сталіся ахвярамі судзейскай несправядлівасці. Ужо колькі гадоў кіраўніцтва сусветным футболам на чале з непатапляльным ¨зафам Блатэрам ігнаруе патрабаванні грамадскасці пра ўводзіны відэапаўтораў у спрэчных момантах. Вось у хакеі ўкаранілі такое прымяненне тэхнікі і гульня дасягнула амаль поўнай справядлівасці, усе спрэчныя пытанні лёгка зняліся. Імя ж кіраўніка ФІФА Блатэра ўжо стала сінонімам карупцыі і закулісных інтрыгаў. Тут варта прыгадаць і скандалы з “прадаваннем” права на правядзенне чэмпіянатаў свету той жа Расеі ў 2018-ым і Катару ў 2022 гадах. Але нічога пакуль даказаць не ўдаецца і чыноўнікі гэтай міжнароднай спартовай структуры застаюцца непакаранымі. Ад гэтага, канешне, губляецца вера ў праўду і сапраўды чысты спартовы дух футбольнага дзейства. Можна ўспомніць і скандальны азіяцкі чэмпіянат 2002 году, калі суддзі цягнулі на п’едэстал гаспадароў карэйцаў, папсавалі многія іншыя матчы. Будзем спадзявацца, што ў Бразіліі такога ў галоўным не здарыцца. Бо людзям хочацца ня толькі прыгожай гульні, але і справядлівасці. Хоць бы ў футболе…

*Уладзімір Хільмановіч*

## FIDH: Алесь Бяляцкі нарэшце на волі!




У суботу, 21 чэрвеня, пасля амаль трох гадоў пазбаўлення волі быў вызвалены выбітны праваабаронца, старшыня Праваабарончага цэнтра "Вясна" і віцэ-прэзідэнт FIDH Алесь Бяляцкі. Нарэшце, ён трапіў пад амністыю, у якой яму адмаўлялі цягам двух гадоў запар з нагоды "шматлікіх парушэнняў рэжыму зняволення". Нягледзячы ні на што, беларускі рэжым дэспатычны, нават калі ён дае згоду на вызваленне...

"Менавіта тая падтрымка, якую я атрымліваў ад усіх вас, усё ўнутранае і міжнароднае ўмяшальніцтва з дня майго арышту прывялі да майго вызвалення сёння", — сказаў Алесь па прыездзе ў Менск.

Алесь Бяляцкі быў арыштаваны 4 жніўня 2011 года на падставе "ўхілення ад выплаты падаткаў у буйным памеры" і прысуджаны 24 лістапада 2011 года да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі ў папраўчай калоніі ўзмоцненага рэжыму за дзейнасць у абарону правоў чалавека.

Адразу пасля арышту FIDHраспачала міжнародную кампанію з патрабаваннем яго вызвалення, у прыватнасці праз сайт freeales.fidh.net, і некалькі дзён таму заклікала да яго неадкладнага, безумоўнага вызвалення ў звароце да Рады па правах чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

"Сёння вялікі дзень, дзень вялікай радасці для ўсіх нас, але мы з абурэннем узгадваем тыя тры гады, якія ён правёў за кратамі ў вельмі цяжкіх умовах", — сказаў прэзідэнт FIDHКарым Лахіджы. "Нарэшце, Алесь зноў на волі, што з'яўляецца вялікай надзеяй для ўсіх праваабаронцаў, якія па-ранейшаму знаходзяцца ў зняволенні па ўсім свеце. Мы будзем працягваць нашую барацьбу за ўсіх іх, пакуль яны таксама не апынуцца на волі, а таксама барацьбу дзеля палітычных зняволеных, якія па-ранейшаму знаходзяцца ў турмах Беларусі".

У сакавіку мінулага года FIDH запусціла кампанію пад назвай #ForFreedom, каб паскорыць вызваленне адвольна затрыманых праваабаронцаў ва ўсім свеце, і будзе яшчэ больш актыўнай у аказанні падтрымкі праваабаронцам ва ўсім свеце.

## ЕС вітае вызваленне Алеся Бяляцкага

**Брусель, 21 чэрвеня 2014 года**
**ЗАЯВА**

"Мы вітаем вызваленне беларускага праваабаронцы Аеся Бяляцкага. Праз амаль тры гады пазбаўлення волі па палітычных матывах ён можа цяпер, нарэшце, уз'яднацца са сваёй сям'ёй і сябрамі.

Гэт важны крок з боку беларускіх уладаў, за якім мусіць паследаваць неадкладнае вызваленне ўсіх астатніх палітычных зняволеных і поўнае аднаўленне іх грамадзянскіх і палітычных правоў. Гэта можа спрыяць паляпшэнню стасункаў паміж Еўрапейскім Саюзам і Беларуссю".




## Прафілактычны ўлік не стане перашкодай для Алеся Бяляцкага ў ажыццяўленні міжнароднай дзейнасці

3 чэрвеня кіраўнік ПЦ "Вясна" Алесь Бяляцкі наведаўся ў Крымінальна-выканаўчую інспекцыю Першамайскага РУУС Мінска, дзе быў пастаўлены на прафілактычны ўлік.

У дачыненні да нядаўняга палітвязня ўстаноўленыя "прафілактычныя" абмежаванні і абавязкі.

- Я падпісаў паперу пра прафілактычны ўлік, згодна з якой раз на месяц мяне мусіць правяраць участковы, я мушу не здзяйсняць больш трох адміністратыўных правапарушэнняў за год, таму што тады ў іх будуць падставы для прэвентыўнага нагляду – больш суровай формы нагляду над тымі, хто адбыў пакаранне. Форма ж прафілактычнага ўліку мне зараз дазваляе выязджаць у любы пункт Беларусі і за межы краіны на тэрмін меншы за месяц. Гэта значыць, што я не павінен паведамляць у інспекцыю, калі я выязджаю на некалькі дзён, - распавёў Алесь Бяляцкі.

Адзінае, на што звяртае ўвагу праваабаронца, у падпісанай ім паперы не прапісана, колькі часу будзе дзейнічаць у дачыненні да яго прафілактычны ўлік. ¨н мяркуе, што гэта яму мусіць патлумачыць участковы з РУУС Партызанскага раёна, якому будзе перададзеная яго справа па месцы жыхарства.

# Адмена смяротнага пакарання. Што могуць зрабіць журналісты?

Беларусь – апошняя краіна ў Еўропе і на постсавецкай прасторы, дзе дагэтуль практыкуецца пакаранне смерцю. Гэты факт не сыходзіць са старонак беларускіх медыя. За апошнія 17 гадоў здзейснена каля 400 расстрэлаў, вядомы толькі адзін выпадак, калі смяротны прысуд заменены на турэмнае зняволенне. Хто сёння ў Беларусі павінен змагацца супраць смяротнага пакарання: праваабаронцы, журналісты, альбо ўсё беларускае грамадства? Якое месца тут журналістаў? Пра смяротнае пакаранне ў праекце “Месца для прэсы” на Беларускім Радыё Рацыя разважае пісьменніца, сцэнарыстка, актывістка кампаніі “Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання” Паліна Сцепаненка.

Паліна Сцепаненка: Праблема ў тым, што ў беларускім грамадстве сёння адсутнічае дыялог на гэтую тэму. Яна не абмяркоўваецца, вельмі шмат людзей, якія проста не ведаюць, што ў нас існуе смяротнае пакаранне. На гэту тэму павінны гаварыць і праваабаронцы, і журналісты, якія павінны інфармаваць грамадства і ініцыяваць гэты дыялог. Тут ёсць, канешне, праблема, што праваабаронцы не маюць доступа да дзяржаўных СМІ. І вымушаныя гэта трэба рабіць праз вулічныя акцыі, якія таксама часам заканчваюцца затрыманнямі.

РР: Паліна, як Вы лічыце, ці не пераацэньваем мы ролю журналістаў у гэтай размове з грамадствам? Бо часам таксама варта канстатаваць той факт, што незалежныя медыя маюць невялікі ахоп аўдыторыі, а дзяржаўныя проста імкнуцца тэму смяротнага пакарання не заўважаць.

Паліна Сцепаненка: Гэтая тэма мусіць быць у медыяпрасторы, яе пачыналі яшчэ ў 90-ыя гады. Першы грунтоўны артыкул быў у газеце “Свабода”, калі там быў рэдактарам Ігар Герменчук. І гэта адна з такіх тэмаў, якія не вельмі любяць абмяркоўваць. Яна нязручная, яна страшная, яна непрыемная, але гэтую тэму трэба ўздымаць, таму што, як паказвае практыка, чалавек, які не ведае, што ў нас існуе смяротнае пакаранне, задумваецца пра яго толькі ў той момант, калі гэта закранае яго асабіста. Маю добры прыклад. Святлана Жук, маці Жука, расстралянага ў 2011 годзе, з якой мы рабілі стужку “Прычына смерці – прочырк”




(таму што менавіта ў пасведчаннях пра смерць расстраляных не пішуць прычыну смерці, а ставяць прочырк), яна ўвесь час спрабавала згадаць, як жа яна галасавала ў 1996 годзе на рэфэрэндуме.

РР: Што яна тады думала на гэтую тэму?

Паліна Сцепаненка: Яна проста сядзела, абхапіўшы галаву рукамі і казала: “Я не магу ўзгадаць, як жа я тады галасавала”. Мы маўчалі. Але выглядала на тое, што яна галасавала хутчэй “за”. Смяротнае пакаранне ўяўляецца мерай справядлівасці. Але ніхто не думае, як яго выконваюць, і што адбываецца ўвогуле ў гэтых камерах смяротнікаў.

РР: А тэма, нязручная для журналістаў, чаму? Таму што кожны чалавек не хоча станавіцца на нейкі пэўны бок, абараняць чалавека, якога быццам бы ўсе лічаць злачынцам?

Паліна Сцепаненка: Гэты момант таксама існуе, але яшчэ ёсць праблема ў тым, каб здабыць гэтую інфармацыю, таму яна заўсёды была закрытая. Мы памятаем, што ў сталінскія часы гэтыя расстрэлы заўсёды здзяйсняліся ўначы. Таму што людзі, якія здзяйсняюць смяротнае пакаранне, гэтыя прафесійныя каты, разумеюць, што яны ўсё ж такі забойцы. Яны гэта разумеюць лепш, чым прыхільнікі смяротнага пакарання, якія крычаць, што ўсіх збачэнцаў, педафілаў трэба караць. Людзі, якія сапраўды трымаюць у руках гэты расстрэльны пісталет, дакладна разумеюць, што яны робяць. І гэтая тэма закрытая. Вакол яе ёсць заслона таямнічасці. І як казаў нам Алег Алкаеў, (былы начальнік менскага следчага ізалятару, які з прычыны сваёй былой службы прысутнічаў пры выкананні смяротных прысудаў, аўтар кнігі «Растрэльная каманда» - рэд.) калі мы ездзілі да яго на здымкі фільму “Убыў па прысудзе”, гэта таксама такая фраза, якая замяняе слова “расстрэл”. Стандартная фраза. То бок нават слова “расстрэл” не прамаўляецца. І ён казаў, што вашы ўсе інтарэсы разаб’юцца аб сцены турмы. Гэта закрытая тэма. Пра яе не любяць гаварыць ні суддзі, якія абвяшчаюць прысуды, ні людзі, якія здзяйсняюць гэта, і ніхто іншы, датычны да гэтай тэмы.

РР: За апошнія 17 гадоў у Беларусі было здзейснена каля 400 расстрэлаў. Што, на Вашую думку, перашкаджае Беларусі адмяніць смяротнае пакаранне?

Паліна Сцепаненка: Пытанне ўвогуле тычыцца выканання правоў чалавека ў Беларусі. Любы таталітарны рэжым захоўвае смяротнае пакаранне, якое, з аднаго боку, застрашае людзей, а з іншага – паказвае, што дзяржава моцная і можа абараніць кожнага грамадзяніна ад злачынцы. Гэтую праблему трэба асвятляць рознымі сродкамі, трэба паказваць гэта і праз мастацкія творы. На сайце Праваабарончага цэнтра “Вясна” можна знайсці шмат міністужак. Зараз мы працуем над праектам “Шэсць аргументаў супраць смяротнага пакарання”.

Улад Грынеўскі, Беларускае Радыё Рацыя для праекта “Месца для прэсы”.

# Правы чалавека і прыгоннае права

***Хто бы мог падумаць, што ў дваццаць першым стагоддзі, у цэнтры Еўропы, хтосьці ўсур'ёз можа развіжаць пра ўвядзенне прыгоннага права. А вось і сталася. У Беларусі. Увядзенне яго цалкам мажлівае ў галіне сельскай гаспадаркі. На стале галоўнага ўжо ляжыць адпаведны дэкрэт і з прыемным нецярпеннем чакае, калі яго завізуе славуты подпіс. Ляжыць-ляжыць. Сам кіраўнік краіны вымавіў гэтыя словы. А ўслед за ім і астатнія кіраўнікі рангам значна ніжэйшым пачалі тлумачыць, што нічога страшнага ў гэтым прыгонным праве няма.***

Ну ясна што няма для сённяшняй дзяржаўнай прапаганды. Яны усё могуць перавярнуць з ног на галаву. Маўляў, хоць і прыгоннае, але ж права. Вось ушанаванне памяці палеглых у паўстанні 1863-64 гадоў гэта для іх страшная з'ява. За гэта ў сучаснай Беларусі перасьледуюць, судзяць, караюць. І цяпер ясна чаму. Кастусь Каліноўскі з сваімі паўстанцамі былі акурат супраць прыгоннага права. Не ўсведамлялі яны, малаадукаваныя мужыкі, як гэта зараз усведамляюць моцна адукаваныя за народныя грошы беларускія чыноўнікі, што вяскоўца трэба ж неяк утрымліваць на зямлі. А то ж разбягуцца хто куды! Пазбірай паспрабуй іх пасля да кучы. Хто ж працаваць будзе?

Ды што там паўстанцы з дзевятнаццатага стагоддзя, які толькі і хацелі, што мірна і годна на той зямельцы працаваць без чужацкага прымусу. Усе еўрапейскія кіраўнікі па сённяшні дзень не могуць зразумець, што мужыка ад зямлі адпускаць нельга. Там у іх у Еўропе, страшна падумаць, не толькі прыгоннага права няма, але нават прыватная ўласнасць на зямлю існуе. І што самае дзіўнае, ніхто на той зямлі нікога працаваць сілай не прымушае. Хочаш бульбу на ёй садзі, а хочаш у футбол гуляй. Можаш нават той бульбай замест мячыка. І ні прэзідэнты не ездзяць па калгасах з праверкамі, ні намеснікі. Ды і калгасаў тых няма зусім. Толькі вось дзіўная сітуацыя для беларускага чыноўніка – калгасаў няма, а мяса, малако, бульба, мёд ды іншыя прадукты ёсць. Хоць ты іх еш, хоць на морду мазай. Выбар цалкам належыць табе.



І пра прыгоннае права яны там зусім не думаюць. А думаюць усё больш пра іншыя правы. Пра правы чалавека. Клапоцяцца, каб хто іх не парушыў нават крыху. Таму пра прыгоннае права ўжо зусім забыліся нават як пра з'яву дзікай і бесчалавечнай мінуўшчыны. Вось яно і атрымліваецца, што існаваць у адной асобна ўзятай краіне можа толькі адзін від правоў. Ці правы чалавека, ці прыгоннае права. Выбірайце, спадарства беларусы, калі ласка. Што вам болей да спадобы. Двух варыянтаў быць не можа. Не ўжываецца прыгоннае права з правамі чалавека. Яно ў нас капрызнае, як нашае кіраўніцтва. Ужываецца толькі з падобнымі да сябе каханых.

Вось нарэшце і нашы браты ўкраінцы, як і ўсе астатнія еўрапейцы, выбралі не прыгоннае права, а правы чалавека. І ў новага прэзідэнта Украіны ўжо тэрмін "прыгоннае права" можа звязвацца толькі з цёмнымі старонкамі гісторыі, калі акупанты не шанавалі ні жыцця, ні пачуццяў тых людзей, што жылі цяжкой працай. Новая ўкраінская ўлада разважае пра недапушчальнасць парушэння правоў чалавека, пра справядлівасць на ўсіх роўнях грамадскага і дзяржаўнага жыцця, пра Свабоду для Краіны і Чалавека, пра павагу да кожнага індывіда, пра вартасць кожнай Асобы. І можна з упэўненасцю сказаць, што сельская гаспадарка, як і іншыя гаспадаркі, там будуць толькі падымацца. Бо ідуць яны праверaным шляхам. Шляхам свабоды. У тым ліку і свабоды асобы. Ну а свабодны не бывае галодны. Гэтым шляхам і еўрапейскія і паўночнаамерыканскія, і многія іншыя краіны дасягнулі свайго дабрабыту. Тут, як кажуць, ровар вынаходзіць не трэба.

Шлях прыгоннага права таксама не новы. ¨н таксама даўно правераны. І вядзе да заняпаду, голаду, рабства, поўнага бяспраўя, адчаю і сацыяльнага выбуху. Гэта ведае кожны школьнік, які па гісторыі мае адзнаку хаця б крыху вышэйшую за двойку. І зараз адбываецца асноўная праверка для беларусаў. Што ж на гэты раз, свядома і ведаючы пра ўсе наступствы, абярэм мы. Прыгоннае права, ці ўсё ж правы чалавека.

*Віктар Сазонаў*

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на ліпень 2014 году

**1 ліпеня**
445 гадоў таму (1569) – Была падпісана Люблінская ўнія – міжнародна-прававы акт аб’яднаньня ВКЛ з Польшчай у федэратыўную дзяржаву – Рэч Паспалітую.

110 гадоў таму (1904) – У Гародні нарадзіўся Генрык Глябовіч, рэлігійны дзеяч, сьвятар, тэолаг.



**2 ліпеня**
65 гадоў таму (1949) – У Смургонях нарадзіўся Віктар Шоць, беларускі настаўнік, краязнавец, актывіст Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ. Памёр.

1989 – У Лідзе адкрыты помнік Адаму Міцкевічу (скульптар Валер’ян Янушкевіч).

**6 ліпеня**
30 гадоў таму (1984) – У Воршы памёр Аляксандар Вернікоўскі, беларускі праваслаўны сьвятар, вязень ГУЛАГу. Служыў з 1950-ых у Дварцы (Дзятлаўскі р-н).

**11 ліпеня**
45 гадоў таму (1969) – Памёр Данат Яцкевіч, удзельнік БКА, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, Аўстралія). Нараджэнец Ліды.

**13 ліпеня**
310 гадоў таму (1704) – Каралём Рэчы Паспалітай і Вялікім князем ВКЛ абраны Станіслаў Ляшчынскі.

**14 ліпеня**
20 гадоў таму (1994) – У Сэйнт-Кэтэрынзе (Канада) памёр Пётр Конюх, беларускі сьпявак, дзеяч эміграцыі (Італія, Бельгія, ЗША, Канада). Пахаваны на беларускіх могілках у Нью-Брансьвіку (ЗША). Нараджэнец в. Турэц (Карэліцкі р-н).

**16 ліпеня**
140 гадоў таму (1874) – У Брусэлі памёр Віктар Гельтман, публіцыст, удзельнік паўстаньня 1830-31. Разам з братам Язэпам стварыў у 1819 г. у Сьвіслацкай гімназіі тайную патрыятычную арганізацыю.

**17 ліпеня**
95 гадоў таму (1919) – Урад Літоўска-Беларускай рэспублікі спыніў сваю дзейнасьць.

**18 ліпеня**
50 гадоў таму (1964) – Памерла Любоў Мазалеўская, беларуская артыстка, рэжысёрка, педагог. Нараджэнка в. Каўшова (Мастоўскі р-н).

**19 ліпеня**
95 гадоў таму (1919) – У Варшаве памёр Юзаф Беркман, жывапісец, удзельнік паўстаньня 1863-64, ваяваў на Ашмяншчыне.

**20 ліпеня**
125 гадоў таму (1889) – Памёр Фёдар Турук, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, гісторык, педагог. Нараджэнец в. Балотца (Наваградзкі р-н).

**25 ліпеня**
130 гадоў таму (1884) – У Вільні нарадзіўся Аляксандар Вернікоўскі, беларускі праваслаўны сьвятар, вязень ГУЛАГу. Служыў з 1950-ых у Дварцы (Дзятлаўскі р-н).

95 гадоў таму (1919) – Памёр Іван Хлябцэвіч (нар. у 1857 у в. Сядзельнікі, Ваўкавыскі р-н), беларускі праваслаўны духоўнік, краязнавец, публіцыст.

30 гадоў таму (1984) – Памёр Уладзімір Караткевіч, народны пісьменьнік Беларусі. Пахаваны ў Менску на Усходніх могілках.

**27 ліпеня**
70 гадоў таму (1944) – Нарадзіўся Валянцін Шаўцоў, беларускі педагог. Працаваў у Гародні, быў дырэктарам СШ №9.

**28 ліпеня**
135 гадоў таму (1879) – У в. Ачукевічы (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Васіль Рагуля, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, педагог, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, Бельгія, ЗША).

*Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі “Радыё Рацыя” - праграма “Людзьмі звацца!”, якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце*

**www.racyja.com**

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце*

**www. spring96.org**




*На сайце*

**www.palitviazni.info**

*вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце*

**www.harodniaspring.org**



*Праваабарончая інфармацыя з іншых рэгіёнаў Беларусі:*

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
чэрвень 2014
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры передруку спасылка
абавязковая

